АСОБА




# Міхаіл ЦЭЙЦІН: «Стойку на руках магу зрабіць і зараз»

*"Народная Воля" павіншавала легендарнага беларускага трэнера па акрабатыцы Міхаіла ЦЭЙЦІНА з 95-годдзем.*



## "Зараз моладзь, як глісты…"

– Не хочуць студэнты вучыцца, – уздыхае мой суразмоўца. – Гэта зараз, напэўна, такая агульная з'ява ва ўсіх ВНУ. Якасць навучання нікога не цікавіць...

**– Раней нацыя была больш фізічна здаровай?**

– Пра што вы кажаце?! Зараз стан фізічнага развіцця моладзі такі, што проста катастрофа! Як глісты, непрыемна глядзець. І Міністэрства адукацыі ў гэтым накірунку мала што робіць, бо, на мой погляд, школьная праграма абсалютна непісьменная. У школе галоўная задача – прывучыць школьнікаў да фізічных практыкаванняў, прымусіць палюбіць іх. У мяне распрацавана такая сістэма, але гэта, відаць, нікому не цікава...

У гэтым плане я ўспамінаю сваю маладосць, дык тады ж быў культ фізічнага развіцця! Усе хацелі быць моцнымі і хуткімі. Часткова гэта яшчэ і ад таго, што час быў перадваенны, але ўсё ж такі і дзяржава гэтаму надавала вялікую ўвагу. Я таксама шмат займаўся спортам у маладыя гады... Вось паглядзіце на гэты ўнікальны здымак – на ім зборная юнакоў па гімнастыцы Горацкага раёна на чэмпіянаце СССР. 1934 год. Тады ж усе раёны выстаўлялі каманды. У Мінску мы занялі 3-е месца, пасля чаго нас паслалі ў Маскву.

**– Падабалася гімнастыка?**

– О-о, не тое слова! Я памятаю, што тады паказалі фільм "Знак Зера", і там галоўны герой быў такі спрытны, што ўсе літаральна захварэлі гэтым. У дварах будаваліся перакладзіны, вешалі кольцы, моладзь круцілася на іх... А ўвогуле, ведаеце, хто мне даў такую любоў да фізічнай культуры і спорту? Мая настаўніца біялогіі. Яна так прыгожа распавядала пра прыгожую мускулатуру чалавека!..

## Розная вайна

**– Вы прайшлі дзве вайны. Спорт дапамагаў вам выжыць?**

– Вельмі! Калі фарсіравалі Сож, плылі пад абстрэлам, пад кулямі. І нармальна, хапіла сіл. І сам жывы, і зброю захаваў. Паўтаруся: тады нормы "Гатовы да працы і абароны" (ГПА), якія мы здавалі, былі не дзеля галачкі на паперы. Моладзь на самай справе была моцная і фізічна развітая. Дарэчы, у 1938 годзе я атрымаў знак выдатніка ГПА ў Крамлі ў ліку першых дванаццаці беларусаў.

**– Сёння вы часта ўспамінаеце свае ваенныя гады?**

– А як жа гэта выкінуць з памяці? На пачатку вайны было надзвычай складана. Але я не ведаю выпадку, калі хто-небудзь не верыў бы ў перамогу. Хоць немцы і раскідвалі лістоўкі, што да 25 ліпеня 1941 "вёска Масква" будзе ў іх руках. Сам я ваяваў у пяхоце, затым быў сувязістам, пасля – у авіяцыі... Успамінаецца, як на вайне мне ледзь не ампутавалі нагу. Тады, можна сказаць, дапамог выпадак. Восенню 1941-га мяне паранілі пад Яльцом. Адвезлі ў шпіталь у Тамбоў, вырашылі, што нагу неабходна ампутаваць, каб не пачалася гангрэна. На раніцу прызначылі аперацыю. Але пачалася бамбёжка, нас накіравалі на ўсход, я 19 дзён ехаў без перавязкі! Прывезлі ва Уфу, планы па ампутацыі ў дактароў не змяніліся, і тут я сустракаю Барыса Навумавіча Цыпкіна – свайго былога выкладчыка, які ў Інстытуце фізкультуры чытаў нам траўматалогію. Гляджу, а прафесар Цыпкін – ужо генерал, начальнік хірургічнага ўпраўлення Паўднёва-Уральскай ваеннай акругі. Пагледзеў ён маю нагу і сказаў, што чэрві, якія развяліся на ране, з'елі ўвесь бруд, так што пагрозы гангрэны ўжо няма.

**– Міхаіл Ільіч, вы распавядаеце, што ўсе верылі ў перамогу. А ў Сталіна народ верыў?**

– Ведаеце, я гарэлку піў са Сталіным, калі давялося патрапіць да яго на прыём 20 ліпеня 1940 года. Банкет быў з 10 вечара да дзвюх гадзін ночы. Тады ж штогод праводзіліся Усесаюзныя фізкультурныя парады, у якіх удзельнічаў і я, і пасля аднаго з іх Сталін зрабіў у гонар удзельнікаў парада, хто быў добраахвотнікам фінскага фронту. Памятаю, на развітанне Сталін мне працягнуў руку, але побач са мной стаяў беларускі футбаліст Яша Ермакоў, які ў гэты момант хуценька прыбраў маю руку і працягнуў сваю. Дарэчы, выступаў Сталін складна, ведаў розныя спартыўныя нюансы. Не тое што Хрушчоў, які пасля вайны заявіў: маўляў, хацеў усе вашы стадыёны і спартыўныя пляцоўкі перакапаць пад кукурузу. І такую бязглуздзіцу нёс дзяржаўны дзеяч!

**– Вы ведалі пра мільёны расстраляных па загадзе "лепшага сябра ўсіх фізкультурнікаў"?**

– Так, знішчалі прыстойных людзей, цудоўных спецыялістаў, геніяльных военачальнікаў.

**– Спартыўныя дзеячы таксама траплялі пад рэпрэсіі?**

– Усе траплялі. Быў у Беларусі такі старшыня камітэта па фізічным выхаванні і спорце Панфілаў. Ён атрымаў ордэн, а праз некалькі дзён яго расстралялі. Вораг народа. Мы адчувалі, што нешта адбываецца не так, бо ведалі людзей, якіх знішчалі. Ведаю, што ў адну ноч ці то ў 36-м, ці то ў 37-м у Оршы расстралялі ўсіх праваслаўных святароў, ксяндзоў і рабінаў. Мой сусед быў святар, цудоўнейшы чалавек. Быў такі час... Памятаю, перад вайной з'явіліся магазіны "Торгсін", дзе тавары можна было набыць за валюту. Некаторыя людзі заходзілі ў крамы, проста каб паглядзець, нічога не набывалі, але ўжо і гэтага было дастаткова, каб чалавека можна было паставіць да сценкі. Ды яшчэ і катавалі тыдзень, каб прызнаўся, дзе валюта ды золата. Гэта было жудасна!

**– Адным словам, ішла вайна і супраць уласнага народа?**

– Безумоўна! Мы ўсю ноч слухалі, дзе спыняліся "варанкі", і разумелі, што і да чаго. Маму маю таксама арыштавалі, катавалі...

## Як ажыў беларускі футбол

**– Калі вайна скончылася, куды вы пайшлі працаваць?**

– Трэба было спачатку давучыцца ў Інстытуце фізкультуры. Больш за 300 студэнтаў пайшлі на фронт, вярнуліся толькі 18. Нас, студэнтаў-франтавікоў, пасялілі ў бараку, які стаяў на месцы сучаснай плошчы Якуба Коласа. Памятаю, да нас кожны вечар прыходзіла Алена Мазаник, якая падарвала Вільгельма Кубэ. Яна выпіць любіла, а ў нас гарэлка заўсёды была...

Пасля інстытута мяне накіравалі начальнікам аддзела кадраў рэспубліканскага спорткамітэта, але мне гэта было зусім не патрэбна. Я ў гэтай справе нічога не разумеў і, шчыра кажучы, не працаваў. А старшынёй спорткамітэта тады быў Савельеў. Неяк зайшоў, паглядзеў і кажа: "Бачу, што гэта не тваё". Адказваю: "Праўда ваша, мне б практычную работу..." І мяне перавялі на кафедру гімнастыкі ў Інстытут фізкультуры. Так амаль 70 гадоў там і працую. І, акрамя таго, зараз яшчэ і трэніру футбалістаў.

**– Кажуць, што не без вашай дапамогі футбольнае мінскае "Дынама" ў 1982 годзе заваявала золата чэмпіянату Саюза.**

– Увогуле, з футбалістамі я пачаў працаваць у 1962 годзе, хоць да гэтага ніякага дачынення да футбола не меў і нават балельшчыкам не быў. У 62-м годзе каманда "Беларусь" знаходзілася ў падвале турнірнай табліцы, галоўным трэнерам там быў Сан Саныч Сявідаў. А я ў гэты час трэніраваў зборную Беларусі па акрабатыцы. На базе ў Стайках мы працавалі разам з футбалістамі. І вось з Сявідавым сустракаемся неяк у парылцы. Ён стаў мне скардзіцца на дрэнную гульню каманды. Я яму ў лоб: "А як яшчэ гэтыя інваліды могуць гуляць?" Сан Саныч крыху пакрыўдзіўся, пачаў апраўдвацца: маўляў, мы ж працуем... "Дрэнна працуеце, – дабіваю калегу. – Футбалісты фізічна абсалютна не падрыхтаваны". Сявідаў пасля гэтага вырашыў прыйсці на маю трэніроўку. Паглядзеў і кажа: "Гэта менавіта тое, чаго не хапае нам. Дапамажыце". І я восенню 1962-га пачаў з камандай працаваць тры разы на тыдзень. А ўжо ў наступным сезоне "Беларусь" заваявала бронзавыя медалі чэмпіянату СССР. За мяне ўчапіліся, каб і надалей працаваў, але часу ўжо проста не хапала – запрасілі ў зборную Саюза па гімнастыцы. Каманду я пакінуў. А вось калі Эдуард Малафееў узначаліў мінскае "Дынама", ён успомніў, як я трэніраваў яго, калі ён яшчэ выступаў за "Беларусь". І таксама прапанаваў папрацаваць з камандай. У 1979 годзе я прапанову прыняў, а праз тры гады "Дынама" стала чэмпіёнам.

**– Каманда была "зорная"...**

– Тэхнічныя хлопцы, нічога не скажаш. Хоць маю методыку спачатку прынялі ў штыкі. Пералом наступіў, калі каманда адправілася ў госці да кіеўскага "Дынама", "Кайрата" з Алма-Аты і ташкенцкага "Пахтакора". Напярэдадні "Пахтакор" у Ташкенце з буйным лікам перамог ленінградскі "Зеніт". Галоўны трэнер "Зенита" Паша Садырын затым мне распавядаў: "Там спякота – пад 50 градусаў. Дзесяць хвілін хлопцы пабегалі, а затым ногі як драўляныя сталі". Пытаюся: "Вы размінку праводзілі?" – "Якая размінка пад такім сонцам?!" Я пасядзеў, падумаў і вырашыў, што трэба зрабіць. Эксперымент ставіў на дублёрах "Дынама", мы вырашылі правесці заняткі ў Ташкенце перад матчам, нягледзячы на спякоту. Усё – хлопцы ажылі! І "дубль" выйграў у "Пахтакора", і асноўная каманда. І іграні ў мяне паверылі.

**– Што вы яшчэ прапаноўвалі футбалістам?**

– Я дабіўся, каб перад гульнёй раніцай праводзілася трэніроўка, хоць Малафееў напачатку быў супраць. Потым я адмяніў зарадку. Зрабіў, каб трэніроўка была не 1 гадзіну 15 хвілін, а дзве гадзіны. Размінку пачыналі не за 30 хвілін да матча, а за паўтары гадзіны. А колькі балельшчыкаў збіралася на стадыён паглядзець! Я ўпэўнены, што перамогі прыходзілі да каманды яшчэ да пачатку гульні.

## Пракапенка: "Калі не буду піць, то не буду і галы забіваць"

**– Ігрок таго зорнага складу Юрый Пудышаў распавядаў мне, як Міхаіл Ільіч Цэйцін за руку вадзіў Аляксандра Пракапенку здаваць экзамен у Інстытут фізкультуры, а той усё роўна ўцякаў у рэстаран гасцініцы "Мінск"...**

– Не толькі на экзамены я вадзіў Сашу, але і ўтрымліваў, каб ён не піў. Памятаю, трэба было рыхтавацца да нейкай гульні з венграмі, я забраў Пракапенку з дома (а мы былі суседзямі), пасадзіў да сябе ў машыну. Едзем у Стайкі. Праязджаем міма басейна на Партызанскім праспекце, Саша мне кажа: "Міхал Ільіч, жонка Наташа прасіла пасылку перадаць у рэгістратуру басейна, спыніцеся на хвіліну". Спыніўся – і больш у той дзень Пракапенку я не бачыў. Ой, як з ім было складана! Ён усё разумеў, згаджаўся, але рабіў па-свойму.

АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Міхаіл Ільіч ЦЭЙЦІН** *нарадзіўся 9 ліпеня 1920 г. у Горках Магілёўскай вобласці.*

*У шасцігадовым узросце патрапіў у бадзяжную цыркавую групу, аднак з-за траўмы пазваночніка цыркавая кар'ера не ўдалася. Быў чэмпіёнам СССР сярод юнакоў па спартыўнай гімнастыцы.*

*З 1946 года Міхаіл Ільіч выкладае ва Універсітэце (раней – Інстытуце) фізкультуры. Падрыхтаваў каля 100 майстроў спорту, напісаў больш за 60 метадычных дапаможнікаў, сярод якіх і методыка ўмацавання вестыбулярнага апарата для касманаўтаў.*

...Дамаўляемся аб сустрэчы на кватэры Міхаіла Ільіча. Той вяртаецца дадому з Універсітэта фізкультуры, дзе выкладае ўжо амаль 70 гадоў. Вось гэта пастаянства!

**– Як яму ўдавалася сумяшчаць алкаголь, вялікія фізічныя нагрузкі і бліскучую гульню на полі?**

– Ён мне казаў так: "Калі не буду піць, то не буду і галы забіваць". Але што і казаць – нагрузка на арганізм ішла вялізная. Выратоўвала тое, што Пракапенка быў талентам ад Бога, іграком з інтуіцыяй. Ён за чатыры хады ведаў, дзе будзе мяч. Такая ж багатая трэнерская інтуіцыя і ў Эдуарда Малафеева. Я настойваў на тым, каб каманда праводзіла аднаразовую трэніроўку, а не двухразовыя, але Малафееў мне на гэта адказаў так: "Па вялікім рахунку я не супраць аднаразовай, але двухразовыя мне патрэбны, каб вечарам упэўніцца, што футбалісты цвярозыя".

## "Прыслухоўваюся толькі да свайго арганізма"

**– З кім яшчэ вы працавалі, акрамя футбалістаў?**

– Быў нейкі час кансультантам у зборнай Саюза па конным спорце, правёў некалькі заняткаў з жаночай валейбольнай камандай. Прапаноў было шмат – як раней, так і зараз. Вось Федэрацыя хакея просіць папрацаваць з хакеістамі.

**– А з-за мяжы былі прапановы?**

– Гады тры таму прыехалі да мяне на трэніроўку ва ўніверсітэцкую залу спецыялісты з бельгійскага футбольнага "Андэрлехта". Здымалі на відэа, ім неверагодна спадабалася тое, што ўбачылі, сказалі: "Еўропа толькі падыходзіць да гэтага". Пасля тэлефанавалі з Бельгіі, прапаноўвалі пераехаць да іх на працу. Я адмовіўся. Моўны бар'ер, нязвыклая абстаноўка – гэта не па мне. А бельгійцы, дарэчы, на падставе тых дыскаў, што знялі, зараз праводзяць міжнародныя семінары.

**– Напэўна, былі б багатым чалавекам, калі б пагадзіліся на замежныя прапановы...**

– Я ведаю, бо сумы прапаноўваліся канкрэтныя. У Штаты запрашаў прэзідэнт сусветна вядомай фірмы, якая робіць гімнастычныя снарады. Абяцаў вялікі заробак, дом, сям'ю перавезці і забяспечыць усім неабходным. "Не, – адказаў, – не змагу я там жыць". Я і на самай справе настолькі прывязаны да Беларусі... Памятаю, ва Уфе ляжаў у шпіталі, і неяк раніцай па радыё чыталі беларускія вершы. Я так расчуліўся...

**– Магчыма, вы знаёмы з кімсьці з беларускіх пісьменнікаў ці паэтаў?**

– З Піменам Панчанкам быў знаёмы, з Васілём Быкавым неяк перасякаліся... Чытаў апавяданні Быкава, спадабалася, як ён пісаў пра вайну. Пісаў горкую, але праўду.

**– Міхаіл Ільіч, як вы пачуваеце сябе ў 95 гадоў?**

– Выдатна, мяне падтрымліваюць станоўчыя стрэсы. Напрыклад, вучань нешта выйграў – гэта ўжо дае дадатковыя сілы. Праўда, апошнім часам стала турбаваць нага, таму, напрыклад, сальта ўжо не магу зрабіць, як тры гады таму. А вось стойка на руках для мяне – не праблема і зараз.

**– Ранішнюю зарадку робіце?**

– Навошта яна мне? Я і так шмат рухаюся.

**– Можа быць, дыету захоўваеце?**

– Перастаньце! Мне за ўсё жыццё столькі розных рэкамендацый давалі, што галава можа кругам пайсці. То сала можна есці, то нельга. То каву забароняць, то яйкі... Я ні да кога не прыслухоўваюся, акрамя свайго арганізма.

**– А сто грамаў можаце сабе дазволіць?**

– Чаму б і не? І цыгарэты палю да гэтага часу, хоць ужо і ў меншай колькасці – усяго па 5–6 цыгарэт на дзень. Ведаеце, для мяне не праблема кінуць паліць, але баюся. Усё ж такі палю ўжо 80 гадоў.

**– Ужо думаеце, як будзеце адзначаць стогадовы юбілей?**

– Ды, напэўна, адзначым гэтак жа, як і 95-гадовы. Шматлікія віншаванні – гэта ацэнка маёй працы. Значыцца, недарэмна жыў і працаваў...

**Алесь СІВЫ.**

*Фота аўтара.*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Ці аб'яднаюць гандбольныя чэмпіянаты Беларусі і Расіі?

*Галоўны трэнер мінскага СКА Спартак Пятровіч Міранові́ч кажа, што "ідэя добрая, але пакуль што ўсё на ўзроўні чутак".*

Першы віцэ-прэзідэнт Федэрацыі гандбола Расіі **Андрэй Лаўроў** заявіў, што чэмпіянаты Беларусі і Расіі могуць аб'яднаць, пачынаючы з сезона 2016/17. Маўляў, такі турнір можа з'явіцца на базе праекта Інтэрнацыянальнай гандбольнай лігі, у заснавальніках якой – Беларусь, Украіна, Расія, Арменія і Казахстан.

*"Зразумела, што з Украінай мы не зможам сёння рэалізаваць гэты праект,* – сказаў Андрэй Лаўроў. – *Пачнём з аб'яднання двух турніраў, а далей паглядзім. Калі мы пачнём перамовы, то на ўзгадненне ўсіх пытанняў можа спатрэбіцца каля года. Галоўнае – знайсці прымальную формулу правядзення аб'яднанага першынства".*

– Днямі ў Мінск прыязджаў старшыня Федэрацыі гандбола Расіі Сяргей Шышкароў, – распавёў "Народнай Волі" галоўны трэнер сталічнага СКА **Спартак МІРАНОВІЧ.** – Падчас сустрэчы з ім, натуральна, ішла гаворка і пра ідэю аб'яднання двух чэмпіянатаў, але ўсё адбывалася на ўзроўні слоў і чутак. Ніякіх афіцыйных заяў і прапаноў з гэтай нагоды не прагучала.

**– А як вы ставіцеся да такой ініцыятывы?**

– Нам, безумоўна, даўно пара да нечага далучацца, бо беларускі гандбол проста пакутуе ад недахопу добрых гульняў. Як кажуць, варымся ў сваім саку. Матчы іншага ўзроўню толькі дапамагаюць расці спартсменам. Калі няма з кім гуляць, то што добрага з гэтага атрымаецца?

**– Верыце, што ідэю аб'яднання чэмпіянатаў удасца рэалізаваць?**

– Пакуль я веру, што такое жаданне ёсць і ў расійскага, і ў беларускага бакоў. Але ж тут шмат розных нюансаў. Напрыклад, у беларускіх клубаў павінен быць зусім іншы фінансавы стан. Адна справа ў Брэст з'ездзіць на сваім аўтобусе, і зусім іншая – паляцець на гульні ў Чалябінск, Астрахань ці Краснадар. На гэта ніякіх грошай не хопіць. Таму пакуль што афіцыйна абмяркоўваць няма чаго...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**





СПОРТ

# Капітан зборнай Беларусі па футболе перабраўся ў клуб да Віктара Ганчарэнкі



Цэнтральны абаронца футбольнай зборнай Беларусі Аляксандр Мартыновіч, які выходзіў з капітанскай павязкай у папярэдніх матчах з Іспаніяй, Расіяй і Македоніяй, перабраўся з «Краснодара» ў екацярынбургскі «Урал», галоўным трэнерам якога нядаўна стаў беларускі спецыяліст Віктар Ганчарэнка.

«Урал» арандаваў Мартыновіча ў «Краснодара» тэрмінам на адзін год, паведамляе афіцыйны сайт екацярынбургскай каманды.

Ініцыятарам запрашэння Мартыновіча ва «Урал» стаў былы трэнер БАТЭ Віктар Ганчарэнка, які нядаўна ўзначаліў каманду.

Да пераходу ў чэмпіянат Расіі Аляксандр Мартыновіч выступаў за РГУОР-Дынама (Мінск) у трэцім дывізіёне чэмпіянату Беларусі, дзе пачаў кар'еру ў няпоўныя 16 гадоў. У мінскім «Дынама» дэбютаваў у 2006 годзе, а з 2007-га стаў футбалістам асноўнага складу. Усяго ў складзе мінскага «Дынама» ў чэмпіянаце Беларусі Мартыновіч правёў 97 матчаў і забіў тры мячы, двойчы (2008, 2009) станавіўся сярэбраным прызёрам чэмпіянату краіны.

У нацыянальнай зборнай Беларусі Мартыновіч дэбютаваў 18 лістапада 2009-га ў таварыскім матчы са зборнай Чарнагорыі ў Падгорыцы.

ШАШКІ

## Новы раздзел

Пачаўся 18-ы чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па шашачнай кампазіцыі-64. Яго рэгламент прадугледжвае новы раздзел "Бразільскія шашкі". У ім ідэі ажыццяўляюцца на 64-клетачных дошках, але ў адрозненне ад рускай версіі гульні – па правілах стоклетак. Напрыклад, калі шашка трапіла на апошнюю гарызанталь і можа прадоўжыць ударны ход як простая, яна па-ранейшаму застаецца ёю, дамкай, як у рускіх шашках, не становіцца. Разгледзьце вучэбныя прыклады, якія дэманструюць гэту асаблівасць:

1–3 (М.Грушэўскі). **Белыя**: a7, c7, e1, e3, f2, f4, g5 (7). **Чорныя**: a5, b2, b4, c3, e7, h2, h6 (7).

D2 (c3:e1:g3:e5 – c3 засталася простай). Далей разбярыце канструкцыю самастойна. Сваю кемлівасць вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.



**Белыя**: a1, b4, d4, e5, f2, h2 (6). **Чорныя**: a5, b2, c3, d2, e7, g5 (6).

Развязка: f6, e1, d2 (g3 – c3 засталася простай) d6x – тут h2 не стала дамкай і засталася простай.

**Белыя**: a1, b4, e5, f2, f6, g5, g7, h2 (8). **Чорныя**: a5, b2, c3, d2, d4, h4 (6).

1. fe7! d:d8/ h:d8 2. gh8 3. h:d4!! 4. a:e1 5. ed2 c3:g3 – c3 засталася простай 6. h2:d6x.

## Клубы Шклудава і Шурпіна

Мінулы раз мы інфармавалі вас аб сімвалічных клубах Кагоцькі і Вітошкіна па кампазіцыі ў рускіх шашках, якія аналагічны клубу Фядотава ў футболе. Яны ствараюцца, калі ўдзельнікі першынстваў краіны набіраюць 100 і больш заліковых ачкоў. А той, хто гэта робіць першым, заслугоўвае, каб клуб быў названы яго імем. Сёння раскажам яшчэ аб двух клубах. Паводле вынікаў усіх 17 чэмпіянатаў краіны іх членамі сталі: **клуба Шклудава** (жанр праблем) – Пётр Шклудаў з Наваполацка (у яго актыве ўжо 361,15 ачка), мінчане І.Наўроцкі (276,875), М.Грушэўскі (228,5), Б.Іваноў (217,25) і В.Шульга (216,725), Д.Камчыцкі з Магілёва (215,675), А.Сапегін з Усполля Мсціслаўскага раёна (213,025), А.Кагоцька з Бабруйска (198,5), А.Ляхоўскі з Жодзіна (169,0), Л.Вітошкін, Гомель (148,25), П.Кажаноўскі з в.Кашэвічы Пінскага раёна (135,55), А.Перавознікаў з Рагачова (132,8), В.Грабенка (132,125) і М.Ляшкевіч з Мінска (106,575); **клуба Шурпіна** (задачы) – Аляксандр Шурпін з Клімавічаў (запісаў на свой рахунак 338,501 ачка), М.Баброўнік з Мазыра (259,375), Л.Вітошкін (180,313), К.Тарасевіч з в.Спорава Бярозаўскага раёна (178,25), У.Ганчар з в.Пружанка Салігорскага раёна (159,75), М.Зайцаў з Баранавічаў (158,188), Б.Іваноў (153,75) і В.Самарын з Барысава (131,25).

Рэйтынг-лісты падрыхтаваў архіварыус Аляксандр Кагоцька.

### Праверце рашэнні

**"Мемарыяльны турнір"** (І.Цярэшка–А.Плакхін): 3. bc3 dc5 4. d:b6 gf4 5. g:e5 f:b2x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15050

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.06.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №2233.